 

„NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr.



# Ніва



№ 19 (63) БЕЛАСТОК, 12 МАЯ 1957 г. ГОД II



*Калектыў мастацкай самадзейнасці ў Кляшчэлях падрыхтоўваецца да фестывалю. На здымку: інсцэніроўка вальса «У прыфрантовым лесе» у выкананні гэтага-ж калектыву.* *Фото — Ю. Лясоцкі.*

## СВЯТА МАЛАДОСЦІ

*«Дарога на VI Сусветны фестываль моладзі і студэнтаў у Маскве адкрыта для ўсіх — не гледзячы на светапогляд, палітычныя і рэлігійныя перакананні, расу і нацыянальнасць».*

Выжэй успамянутую заяву, Міжнароднага фестывальнага камітэта, моладзь свету сустрэла з вялікім задавальненнем і радасцю. Цяпер, няма такой краіны на свеце, дзе-б моладзь не гаварыла аб Маскоўскім фестывалю, не марыла ўзяць удзел у гэтым вялікім маладзёжным мерапрыемстве.

VI Сусветны фестываль моладзі, які адбудзецца ў канцы ліпеня і пачатку жніўня г. г. у Маскве, будзе вялікім, незабыўным святам маладосці, святам дружбы і міру.

На Маскоўскі фестываль прыедуць прадстаўнікі маладзёжных арганізацый звыш 150 краін свету. У гэтыя дні Масква будзе гасцяваць звыш 30 тысяч дэлегатаў з Кітая, Чэхаславакіі, Польшчы, Індыі, ЗША, Канады, Англіі і іншых краін.

Ва ўсім свеце арганізуюцца штораз шырэйшыя кругі зборак грашовых складчын на папаўненне міжнароднага салідарызацыйнага фонду.

З гэтага фонду скарыстаюць дэлегаты моладзі каланіяльных і гаспадарча адсталых краін, якія не маюць магчымасці аплаціць, зрэшты не малых, коштаў звязаных з падарожжам у далёкую Маскву.

І так, моладзь Галандыі, вырашыла дапамагчы прыехаць на Маскоўскі фестываль моладзі з Антыльскіх Астравоў. Вядома, што падарожжа з Карыбскага мора ў Еўропу каштуе нямала.

Далёкім Сенегальчыкам вырашыла дапамагчы моладзь Фінляндыі, а Суданчыкам — маладыя немцы з Заходняй Нямеччыны. Таму ініцыятыва маладых галандцаў, фінляндцаў і немцаў, заслугоўвае на асаблівую пахвалу.

Праграма фестывалю — вельмі рознастайная. Напрыклад, вельмі цікава прадбачацца сустрэчы моладзі розных краін, між іншым, адбудуцца сустрэчы маладых шахцёраў, чыгуначнікаў, настаўнікаў, працаўнікоў будаўнічай прамысловасці, сялянскай моладзі і іншых.

Фестываль стварае вялікія магчымасці для абмену думкамі і поглядамі, правядзення спрэчак, прыязных гутарак, навядзення прафесіянальных кантактаў і кантактаў паводле індывідуальнага зацікаўлення кожнага з удзельнікаў.

Праз увесь час фестывалю моладзь свету будзе дэманстраваць культуру і мастацтва сваіх народаў.

Моладзь усяго свету, зараз праяўляе вялікае зацікаўленне да VI Сусветнага фестывалю, а ў след за гэтым і да ўсяго Савецкага Саюза — краіны ў якой адбудзецца фестываль.

Толькі ў нас, у Польшчы, нейк зусім ціха. Мы ў параўнанні з моладдзю іншых краін вельмі спазніліся з падрыхтоўкай да фестывалю.

Усяго толькі 2 месяцы таму паклікана ў нас да жыцця фестывальны камітэт, які на боку кажучы праз гэтыя два месяцы амаль нічога не зрабіў.

Ды і наогул у нас зусім мала гаворыцца аб фестывалю. Друк маўчыць, радыё таксама. Толькі Галоўнае Праўленне ТПГІР раскручвае гэтую справу.

Цешыць нас толькі факт, што сярод беларускай моладзі, пражываючай у Польшчы, апошнім часам нешта пачало рабіцца ў гэтым напрамку.

Ды і наогул, хоць з Беласточчыны прадбачыцца выезд невялікай дэлегацый на фестываль — ўсяго 20 чалавек, аднак тут падрыхтоўка да фестывалю бадай найлепш адбываецца.

На Беласточчыне, першы ў Польшчы, сарганізавана Ваяводскі фестывальны камітэт, старшынёй якога выбрана намесніка старшыні Прэзідыума ВРН — Яна Чаплю.

Пры Ваяводскім фестывальным камітэце ўтворана тры секцыі, якія кіруюць падрыхтоўкамі да фестывалю.

Секцыя арганізацыйная адказна за арганізаванне Павятовых фестывальных камітэтаў, зборку фонду на выезд дэлегатаў (на Беласточчыне намечана сабраць 100 тысяч злоты) і за выбары дэлегатаў на фестываль. Вялікая і адказная праца стаіць перад арганізацыйнай камісіяй на пярэдадні фестывалю. Як вядома, праз нашу краіну ў дарозе на фестываль будзе праязджаць многа моладзі з заходнееўрапейскіх краін.

Прадбачыцца, што ў перадфестывальныя дні праз Польшчу будзе праязджаць каля 7.200 дэлегатаў. Інакш кажучы, што чацвёрты заграінчны дэлегат будзе праз некалькі гадзін госцям Польскай моладзі.

Беласток, так сказаць, з'яўляецца Меккай для эсперантыстаў усяго свету. Хто ведае, ці гэтыя дэлегаты праязджаючы цераз Польшчу не захочуць пабываць у Беластоку.

Варта ўжо зараз падумаць Ваяводскаму Фестывальнаму камітэту над тым, каб як найлепш сустрэць дарагіх гасцей, варта падумаць хоць аб нейкіх скромных падарунках нашым замежным сябрам.

Паклікана таксама прапагандовую секцыю, якая з'яўляецца адказнай за інфармаванне насельніцтва аб падрыхтоўцы да фестывалю. Нажаль гэтая секцыя, кіраўніком якой з'яўляецца рэд. Лазінскі, амаль нічога не робіць. Таму насельніцтва Беласточчыны зусім мала ведае аб гэтай падрыхтоўцы.

Мала лепш працуе і трэцяя, культурна - асветная секцыя, за працу якой адказвае, працаўніца аддзела культуры ВРН грам. Марыя Кульчынская.

А ці-ж не час было-б заняцца арганізаваннем конкурса дэкламацыі ці конкурса на найлепшы самадзейны мастацкі калектыў і найлепшых з іх падрыхтоўваць да фестывалю? У нас-жа на Беласточчыне ёсць толькі таленавітых гурткоў мастацкай самадзейнасці. Пакуль што яны спяць. Аб фестывалю амаль зусім не ведаюць. Ужо час разгарнуць сярод іх актыўную, перадфестывальную дзейнасць.

Пакуль што Беласточчына можа пахваліцца толькі адным Гайнаўскім паветам.

Павятовы Фестывальны камітэт у Гайнаўцы, старшынёй якога выбрана таленавітага, энергічнага маладзёжнага дзеяча — Кастуся Ляшчынскага, апрацаваў падрабязны план перадфестывальнага дзеяння.

Гайнаўскі Фестывальны камітэт у бліжэйшых днях арганізуе сустрэчу народных мастакоў павета. Як вядома жыве тут многа беларускіх самародных скульптараў, жывапісцаў, каруначніц і іншых мастакоў.

Члены Фестывальнага камітэта хочуць абмеркаваць з народнымі мастакамі тэмы іх бліжэйшых прац, так каб прадметы, якія яны зараз выканаюць маглі стацца падаркамі на фестываль.

На чэрвень прадбачана сарганізаваць у Белавежы вялікі перадфестывальны маладзёжны фестын, а ў Гайнаўцы — фізкультурны фестын.

У Гайнаўскім павеце штораз шырэй разгортваюць перадфестывальную дзейнасць беларускія гурткі мастацкай самадзейнасці. Напрыклад гурток мастацкай самадзейнасці з Кляшчэляў, пад кіраўніцтвам Галіны Місеюк ужо даў два перадфестывальныя цікавыя канцэрты. У бліжэйшых днях выступіць ён у Нурцы. Добра таксама працуе беларускі мастацкі самадзейны калектыў у Навасадах пад кіраўніцтвам настаўніцы Тамары Бусьняк.

Да Маскоўскага фестывалю засталося ўжо зусім мала часу. Думаць і абмяркоўваць ужо няма калі. Трэба распачаць актыўную працу сярод моладзі, так як гэта робяць таварышы з Гайнаўскага Фестывальнага камітэта.

Наша моладзь павінна жыць Маскоўскім фестывалем, так як жыве ім моладзь іншых краін.

В. БАРШЧЭЎСКІ

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА



 

